

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46a.
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
**Банкавае конто:** Verlag „Baćkauščyna“, Konto Nr. 337-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 34 (264) — Нядзеля 21 жнівеня 1955 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 9

# Гульня хвальшывымі картамі

**НА МАРГІНЭСЕ ПАСЛЯЖЭНЭЎСКАГА КОЭГЗЫСТЭНЦЫЯЛІЗМУ**

Яшчэ доўга перад Жэнэўскай канфэрэнцыяй абодвы рывалізуючыя блёкі: камуністычны Ўсход і дэмакратычны Захад імкнуліся да міжнароднага адпружаньня і ўзаемнага суіснаваньня (коэгзыстэнцыі). Аднак матывы і мэты гэтых імкненьняў у кажнага з супорнікаў былі іншыя. Заходнія дзяржавы імкнуліся шчыра да нармалізацыі ўзаемадачыненьняў з камуністычным блёкам выражаючы волю сваіх грамадзян, якія за ўсякую цану жадаюць усьцерагчыся новай сьветнай вайны, і маючы на мэце захаваньне заходняй цывілізацыі перад зьнішчэньнем у новай атамна-вадароднай вайне. Гэтыя імкненьні на Захадзе на столькі сільныя й глыбокія, што, каб іх дасягнуць прынамся на кароткі адрэзак часу, Захад з ахвотай згаджаўся на прызнаньне Саветам статусу кво, г. зн. іхніх дасюлешніх тэрытарыяльных здабыткаў.

Іншымі прычынамі і мэтамі кіруюцца Саветы. Яны, апынуўшыся ў стадыі грознага эканамічнага крызысу, нутранага палітычнага аслабленьня і нацыянальнага фэрмэнту сярод нерасейскіх народаў, патрабуюць даўжэйшай перадышкі, каб наладзіць парадак у сябе дома. Гэта нутраныя прычыны новага савецкага палітычнага курсу. Але існуюць яшчэ й прычыны вонкавыя. Чырвоны Крэмль, плянуючы новую сьветную вайну з мэтаю запанаваньня над сьветам, патрабуе маральна й псыхалягічна раззброіць Захад, яго разадзіночыць і не дапусьціць да паўстаньня моцнае сыстэмы заходняэўрапэйскае абароны.

Трэба быць палітычна зусім наіўным і ня ведаць гісторыі расейскага імпэрыялізму, каб паверыць, што ўсе мірныя гэсты новых савецкіх верхаводаў зьяўляюцца шчырымі, што замежная палітыка Савецкага Саюзу дыямэтральна і на даўжэйшы час зьмянілася. Ды няма навет патрэбы шукаць у гісторыі дарэвалюцыйнай Расеі аналёгіяў і фактаў на пацьверджаньне адваротнага. Іх дастаткова знойдзем у гісторыі Савецкага Саюзу на працягу кароткага, бо ўсяго 37-гадовага, ягонага існаваньня. Цьвярозы на апошнія падзеі лёнданскі «Ньюсвік» у нумары за 25 ліпеня сёлета прыпамінае аж шэсьць падобных да сяньняшніх зьменаў курсаў савецкай нутранай і замежнай палітыкі. І так:

1) Калі ў 1921 годзе савецкая Расея апынулася над пропасьцю голаду і эканамічнага хаосу, Ленін увёў г. зв. НЭП (Новую Эканамічную Палітыку), якая ў сваей сутнасьці была наваротам да капіталізму. Гэта ўзбудзіла вялікія надзеі ў цэлым вольным сьвеце, які паверыў, што камунізм, не апраўдаўшы сябе на практыцы, скончыўся раз назаўсёды. Тымчасам Сааветы, перамогшы пры помачы НЭП-у нутраны крызыс, у 1929 годзе раптоўна пакончылі з НЭП-ам і вярнуліся да старой палітыкі.

2) У 1924 годзе Сталін, каб перамагчы апазыцыю Троцкага, староньніка сьветнай пралетарскай рэвалюцыі, выступіў зь лёзунгам: «Сацыялізм у ваднэй краіне». Захад адразу паверыў, што Саветы выракліся сьветных заваяваньняў і больш яму не пагражаюць. Далейшыя выпадкі паказалі, што савецкая палітыка ні ў чым не зьмянілася.

3) Пасьля вызнаньня ў 1933 годзе Задзіночанымі Штатамі Амэрыкі Савецкага Саюзу, апошні ўрачыста забавязаўся, што ня будзе падтрымліваць у Амэрыцы камуністычнага руху. Аказалася, што і гэта былі толькі пустыя словы.

4) У 1935 годзе Камінтэрн загадаў усім камуністычным партыям спыніць рэвалюцыйную дзейнасьць і, задзіночыўшыся зь іншымі дэмакратычнымі кірункамі, змагацца супольным «народным фронтам» супраць фашызму. Гэты «народны фронт», які будзіў не малыя надзеі на Захадзе, запалоханым таталітарна-фашыстаўскімі рухамі, кончыўся вядомым пактам Рыбэнтроп—Молатаў.

5) У 1943 годзе, калі Савецкі Саюз знаходзіўся ў сьмяротнай небясьпецы і патрабаваў дапамогі Захаду, быў разьвязаны камінтэрн. Гэта мела абазначаць, што пасьля вайны Саветы ня будуць падтрымліваць у іншых краінах рэвалюцыйных рухаў і ня будуць імкнуцца да тварэньня ў іх камуністычных урадаў. Практыка паказала, што і гэта былі толькі пустыя словы, а пасьля вайны камінтэрн быў заменены камінформам.

6) У Ялце Сталін даў Рузвэльту ўрачыстае забавязаньне, што ў краінах, акупаваных савецкай арміяй, будуць праведзеныя вольныя дэмакратычныя выбары. Потым і гэтае забавязаньне было цынічна зламанае.

Можна прыводзіць без канца падобныя прыклады на пацьверджаньне таго, што для савецкай палітыкі словы — гэта, адно, а чыны якраз другое, словам адваротнае і ім процілежнае. А ці-ж сяньня, у пэрыяд Жэнэвы і спатканьня вялікай чацьвёркі Саветы пайшлі далей пустых словаў і запэўненьняў? Не! Прыклад Аўстрыі і Югаславіі ў нічым не мяняе сутнасьці справы. Адзін і другі выпадак зьяўляецца бясспрэчным сукцэсам Крэмля чарговай няўдачай Захаду. Саветы згадзіліся на сувэрэннасьць Аўстрыі і вывялі зь яе тэрыторыі свае войскі, якія аднак трымаюць пару дзесяткаў кілямэтраў далей, на тэрыторыі Мадзяршчыны й Чэхаславаччыны. У замен за гэта пазбавілі Захад важнага у сэньсе стратэгічным прадмосьця, якім была Аўстрыя. Паломніцтва савецкіх верхаводаў да Ціты, пэўне-ж, было ім не да твару, але гэтымі «буржуазнымі прадрассудкамі» савецкія вяльможы ніколі ня перайmaліся. Затое камуністычная Югаславія, якая знаходзіцца на ўтрыманьні Амэрыкі, сталася для Захаду меней надзейнай. У вабодвых выпадках ігра аплацілася.

Жэнэўская канфэрэнцыя ў ніводным пытаньні не дала ніякіх пазытыўных вынікаў. Разыходжаньні між Захадам і Ўсходам былі на столькі глыбокія й прынцыповыя, што ўдзельнікі канфэрэнцыі навет не змаглі выдаць супольнага камунікату. Адзіным канкрэтным, але не пазытыўным, вынікам гэтае канфэрэнцыі было тое, што ў кастрычніку ў тэй-

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# Нявыкарыстоўваныя магчымасьці Захаду

Праўда можа быць толькі адна. Таму, калі ў Савецкім Саюзе зьявіліся дзьве — адну трэба было зьліквідаваць. У 54-м годзе Маленкоў заявіў, што вадародная вайна азначае зьнішчэньне цывілізацыі. Тлумачаны гэтыя словы больш падрабязна — гэта абазначае, што ў трэцяй сусьветнай вайне ня было-б пераможцы, а гэтым самым камунізм ня мае ніякіх магчымасьцяў апанаваць сьвет шляхам падбояў, бо ён сам зьгіне разам з цывілізацыяй ім-жа падпаленага сьвету. Гэта маленкоўскае цьверджаньне амаль пакрывалася зь цьверджанямі заходніх вучоных і, здаецца, было найбліжэйшае да праўды. Аднак-жа гэта праўда не адпавядае калектыўнаму кіраўніцтву Савецкага Саюзу, таму ў даволі кароткім часе Маленкоў публічна прызнаўся, што ён быў замала здольны й разумны на такое высокае становішча, як прэм'ер СССР і з гэтай пасады зрокся. Тут-жа на месцы, бязь ніякіх дыскусіяў, на прапанову Хрушчова прэм'ерам быў аплясканы Булганін, а празь некалькі гадзін Молатаў, як credo камуністычнай палітыкі, абвесціў, што вадародная вайна будзе згубай толькі для падгнілага капіталізму. Молатаў адным замахам дыскваліфікаваў тэорыі Маленкова і абвесьціў далейшы нязьменены курс палітыкі Леніна-Сталіна, а гэтым самым — адваротную ад маленкоўскай (і бадай запраўднай) праўду.

Што-ж у практыцы значыла маленкоўская праўда? — Што выбух атамовае бомбы над Гірошымай узарваў адну эпоху і распачаў другую; што, як калісь у Расеі лічылася эпоха «да Напалеона» й «пасьля Напалеона», цяпер, тым больш, ува ўсім сьвеце павінна лічыцца эпоха да Гірошымы і пасьля Гірошымы, і таму няма сэнсу настаўляцца на вайну, бо сучасная вайна ня дасьць перамогі. Дзеля гэтага камунізм мусіў-бы вырачыся мэтаў апанаваньня сьвету, або шукаць да гэтай мэты іншых шляхоў. А адным зь іх, і бадай адзіным, было-б стварыць той, запавяданы ў 17-м годзе, рай грамадзкіх свабодаў і прыватнага дабрабыту, каб гэты савецкі рай эманаваў на ўвесь сьвет. Але гэткі стан быў-бы вельмі небясьпечны для калектыўнага кіраўніцтва, бо адна свабода родзіць смагу да другой, а ўсё ў суме давяло-б да ліквідацыі камуністычнага ладу й канца крамлёўскай алігархіі. І таму на пачатку гэтага году алігархія расправілася з гэрэзіяй Маленкова і паставіла назад савецкую машыну на даўнейшы тор. Толькі для падмацаваньня гэтай лініі ілюзіямі, Молатаў, выставіў як чэк бяз пакрыцьця, нічым неабаснаванае абсурднае цьверджаньне, што вадародная вайна прынясе згубу толькі гнілому капіталістычнаму сьвету.

Молатаў мае каменны твар, а Ленін называў яго «каменным задам». Таму Молатаў з каменным тварам мог гаварыць гэты абсурд. Ведаем, што Молатаў з каменным спакоем засудзіў на галодную сьмерць мільёны людзей на Украіне. Калі яму тлумачылі, што далей, бяз выкліканьня катастрофы, штучнага голаду стварыць нельга, ён з тупой упорыстасьцяй сказаў, што воля Масквы мусіць быць выканана. Вынік — мільёны людзкіх жыцьцяў і няшчасьцяў. Молатаву ня здрыгнула рука, калі ён падпісваў пакт з Рыбэнтропам. Вынік — аж за добра ведамы. Таму Молатаў з каменным голасам і з каменным супакоем заявіў ,што ў трэцяй вайне зьгіне капіталізм.

У вадрозьненьне ад камуністычнага сьвету, калі на Захадзе навукоўцы выступілі зь перасьцярогай перад атамнай вайной, рэакцыя была вялізарная і — бадай навет непатрэбна — дайшло да панікі. У Саветах-жа, дзе навука падпарадкавана партыйнай талмудыстычнай дактрыне — навукоўцы навет ня пікнулі, каб запярэчыць абсурднай балбатні Молатава.

Аднак трэба думаць, што савецкія верхаводы маюць настолькі інтэлігэнцыі, каб бачыць далей, чымся бачыў Ленін у да-гірошымаўскую эпоху. Яны хіба добра разумеюць, што праўда адна й аднальковая як для капіталістычнага, так і для камуністычнага сьвету. Аднак яны робяць уражданьне, быццам-бы бачаць праўду якраз пасярэдзіне. Тут сакрэт новых тэорыяў аб нейкім суіснаваньні і гэтых салодкіх ухмылак, якія не да твару ані надзьмутаму Молатаву, ані мужыкаватаму Хрушчову, ані тым больш старому чэкісту Булганіну. Камуністычныя верхаводы мусяць адступіць ад свае тактыкі, а гэтым самым камуністычная дактрына траціць свой дынамізм і кінэтыку. Бо камунізм можна параўноўваць з чалавекам на самакаце: пакуль едзе наперад — трымаецца, калі-ж затрымаецца хоць на хвіліну — мусіць злазіць. Гэтае затрыманьне — выразны сымптом крызысу камунізму.

Нажаль, дэмакратычны сьвет пакульшто дае сябе абдурыць даволі партацкай камэдыяй маскаваньня і перахварбоўкі ваўкоў у авечак. А гэтым самым непатрэбна ідзе наруку ваўком. **пс**

# „НАША СЛОВА“

**(Да 30-х угодкаў лістападаўскага руху*)**

У 1925 г. у Слуцку быў зарганізаваны на агульна-адукацыйных курсах краязнаўчы гурток. Пазьней гэты гурток пачаў сваю антыбальшавіцкую дзейнасьць з выдаваньня часапісу «Наша Слова». Рэдактар гэтага часапісу, курсант Міхась Макарэня, прыйшоў з рукапісамі да выкладчыка беларускай мовы Юркі Лістапада і папрасіў памагчы рэдагаваць матар'ял. Ідэялягічны кірунак часапісу адразу яскрава вызначыўся: у артыкулах «Нашага Слова» аўтары ня толькі палемізавалі з прынцыпамі камуністычнае партыі, але й выказвалі досыць энэргічныя захады ў змаганьні з савецкай уладай. Прыкладам, у адозьве «Чарговае заданьне сьвядомага Беларуса» аўтар адозвы Нічыпар Мяцельскі кажа ў канцы**: «Трэба думаць, што мірным спосабам абмежавацца нельга. Кажны, знаёмы ўжо з гэтым напрамкам інтэлігент не павінен палохацца, калі навет давядзецца праводзіць нашу сьвятую мэту тэрарыстычным парадкам».

У першым нумары «Нашага Слова» быў зьмешчаны яшчэ адзін артыкул Мяцельскага: «Стварэньне нацыянальнай сялянскай партыі». Паводля думкі аўтара, усё сялянства — адзіная кляса, яно мае адзіныя інтарэсы і павінна ўзяць уладу ў свае рукі. Гэтая думка таксама выказана й Міхасём Макарэням. Пад псэўдонімам Міхася Сумнага ў часапісе быў зьмешчаны ягоны артыкул: «Да братоў вёскі», які заклікае:

«Браты сяляне! Вольная Беларусь нясе на стол вясельны каравай. Сядайце разам усе на пачэснае месца — покуць. Між вамі няма ані лепшых, ані горшых. Усе вы роўныя сыны ў нашай Маці Беларусі!

«. . . Савецкая ўлада нацкавала суседа на суседа, брата на брата, каб вы ня верылі адзін аднаму, ня змовіліся супраць савецкай улады. Сяляне, кіньце сваркі. Ваш вораг . . . ня сусед, а бальшавік».

Ня менш моцнымі гучаць прызыўныя артыкулы й вершы Малога Язэпа ды Міхася Самотнага. Першы — Мікола Казак, а другі — Міхась Дзямідовіч сваімі творамі занялі больш чым палову часапісу. Яны рэзка крытыкавалі савецкі рэжым і заклікалі Беларусаў да паўстаньня.

Два цікавыя артыкулы зь гісторыі Беларусі, падпісаныя імём Пятра Юліса, наводзяць думку аб аўтарстве Лістапада. Апрача таго, у першым нумары «Нашага Слова» прыймалі ўдзел Алесь Апавяданьнік і Янка Спагадны. Спачатку часапіс быў скапіяваны ў шасьці паасобніках, а пазьней, калі лістападаўцы набылі шапірограф, яго памножылі і распаўсюдзілі сярод сяброў арганізацыі й ейных прыхільнікаў.

Ці мала хто ў Менску зь вядучай беларускай інтэлігенцыі меў часапіс «Наша Слова»! Некаторыя зь іх раней ці пазьней пацярпелі як нацдэмы і былі высланыя на Поўнач. Сярод іх былі такія беларускія дзеячы, як Тэраўскі, Пяткевіч, Сьцяпура. Як выявілася на судовым працэсе лістападаўцаў, гэты часапіс меў таксама й Якуб Колас, атрымаўшы яго ад Мяцельскага. У рукі ГПУ трапіў толькі адзін экзэмпляр першага нумару часапісу, узяты ў Дзямідовіча ў часе арышту. Іншыя сябры арганізацыі былі папярэджаныя й пасьпелі зьнішчыць кампрамітуючыя іх перад бальшавікамі дакумэнты й кнігі. Падсудны Ціт Курбыка на сьледзтве прызнаўся, што меў «Наша Слова» — яму даў яго Дзямідовіч, пры гэтым ён заявіў, што ня чытаючы выкарыстаў яго на агортваньне селядцоў. Лістапад, папярэджаны бацькам Дзямідовіча пра арышт сына, спаліў антысавецкую літаратуру, а ў тым ліку і два нумары «Нашага Слова».

Аб другім нумары часапісу ні на судзе, ні ў савецкай прэсе не гаварылася. Відаць, гэты апошні нумар, які выйшаў незадоўга перад арыштам лістападаўцаў, ня быў знойдзены ГПУ. У Дзямідовіча ня было другога нумару «Нашага Слова» падчас ягонага арышту — ён даў яго чытаць камусьці зь сяброў. Такім чынам, для ГПУ зьмест гэтага нумару застаўся таямніцай, і сьледчыя, ня маючы матар'ялу, а магчыма й ня ведаючы аб ім, не вымагалі прызнаньняў ад лістападаўцаў. Затое на першы нумар «Нашага Слова» не пашкадавалі чорнай хварбы ні савецкія судзьдзі, ні карэспандэнты савецкай прэсы. Нейкі Г. Грыгор'еў у газэце «Известия» абзывае Лістапада «авантурыстым», патрыётам з польскай дэфэнзывы», а ўсіх сяброў арганізацыі выстаўляе, як «агентаў замежнага капіталу». Каб выклікаць нянавісьць і пагарду грамадзтва, гэты й падобныя да яго пісакі выдумоўвалі, быццам лёзунгам Лістапада было: «Праз нацыяналізм і шавінізм — да паслугаў польскай дэфэнзывы». У сваёй мане яны накідалі на арганізацыю і чорны цень антысэмітызму. Аднак, на судзе сьветка Ісаак Хает, слухач агульна-адукацыйных курсаў у Слуцку, ён-жа й старшыня вучнёўскага камітэту, сьцьвярджаў зусім інакшае: «Лекцыі Лістапада, — казаў ён, — праўда, былі патрыятычныя, аднак варожасьці да Жыдоў зь ягонага боку ня было. Наадварот, ён вымагаў ад вучняў-Беларусаў мовы й літаратуры беларускай больш, чымся ад іншых».

На судзе быў абмінуты яшчэ адзін характэрны факт. У часапісе «Наша Слова» № 1 быў зьмешчаны верш «Этка» Міхася Самотнага. Верш быў прысьвечаны курсантцы Э. Хлявіч. Поўны цяплыні й лагоднасьці, ён пачынаўся словамі:

Эстэр, слаўная дачухна Палястыны,
Паняволенай, як і Беларусь, краіны!
Там цьвітуць і нард, і мандрагора,
А таксама людзі церпяць гора.

І далей у вершы гаворыцца, што Беларусь хутка вызваліцца ад улады чужынцаў, будзе вольнай, самастойнай, а бедная Эстэр яшчэ доўга чакацьме вызваленьня бацькаўшчыны сваіх прашчураў — далёкай Палестыны. І паэта жадае ёй ад усяе душы дачакацца гэтага шчасьця. Ці-ж можна пасьля гэтага казаць аб чарнасоценным антысэмітызьме? Слуцкія Жыды, сярод якіх былі й сыяністыя, ня верылі савецкім газэтам. Адзін зь іх, Хаім Масьлянскі атрымаў верш «Этка» ад самога аўтара і пераклаў яго на гэбрайскую мову.

У другім нумары часапісау «Наша Слова» быў зьмешчаны артыкул аб дзяржаўным ладзе будучай вольнай Беларусі. У васнову артыкулу быў пакладзены прынцып ураду БНР. Значнае месца даецца таксама пытаньню нацыянальных мяншынаў, у тым ліку й жыдоўскай. У гэтых пытаньнях лістападаўцы выказалі шырокі дэмакратызм, даючы роўнасьць у правох усім грамадзянам. Права-ж на ўласнасьць зямлі яны пакідалі Беларусам, як запраўдным гаспадаром свае Бацькаўшчыны. Афіцыяльнымі ветлівымі зваротамі між грамадзянамі Беларусі павінны былі быць сялянскія «дзядзька» й «цётка». Проста разьвязвалася й рэлігійнае пытаньне. Царква, паводля лістападаўцаў, павінна была быць дзяржаўнай, нацыянальнай. Усе Беларусы-хрысьціяне — праваслаўныя, каталікі й баптыстыя — павінны аб'ядначца ў вагульную беларускую хрысьціянскую грамаду й стварыць адзіную царкву.

Апрача палітычных артыкулаў і гістарычнага нарысу, у другім нумары «Нашага Слова» былі зьмешчаны літаратурныя творы: працяг раману «На вялікіх дарогах» Н. Мяцельскага і вершы маладых паэтаў. Зьмест часапісу быў разнастайны й цікавы. Лістападаўцы з другога нумару пачалі думаць аб набыцьці шрыфту. Дзеля гэтае мэты адзін зь сяброў арганізацыі, студэнт Вэтэрынарнага Інстытуту, Квач прабаваў перайсьці граніцу, каб у Польшчы купіць друкарскі набор. Спроба пераходу мяжы не ўдалася, і Квач быў арыштаваны ворганамі ГПУ.

На колькі быў папулярны антыбальшавіцкі часапіс «Наша Слова», відаць з таго, што савецкі суд і газэты стараліся ачарніць яго ў вачох беларускае грамадзкасьці, зьменшыць ягоную ролю, гаворачы, што справа лістападаўцаў не знайшла падтрыманьня ў народзе. Аднак гнусная савецкая прапаганда нідзе не знайшла водгуку й веры. Беларускае насельніцтва спагадала слуцкім змагаром.

К. РАМАНОВІЧ

---

* Гл. артыкул **«Слуцкія Змагары»**, «Б-на» № 63 (263).

** Цытаты ў гэтым артыкуле ўзятыя з савецкіх газэт «Правда», Известия» і «Зьвязда» за сакавік 1926 г.

# Шляхі беларускіх дзяцей у вапошнюю вайну

Юнацкая школа «Крывія» знаходзілася пару кілёмэтраў ад прыгожага турынскага гарадка Майнінгэн — у вёсцы Драйсігакэр. Гэта быў даволі вялікі будынак, відаць, сядзіба нейкага абшарніка, а дзеля таго мясцовыя сяляне называлі яго «шлёсам» — замкам

За майго пабыту ў гэтай школе дзяцей яшчэ амаль ня было. Тут былі толькі кіраўнікі СББ-у, што яшчэ не атрымалі накіраваньня на працу ў лягер моладзі, а таксама некалькі старэйшых настаўнікаў, якія выкладалі тут розныя прадметы, як гісторыю Беларусі, беларускую літаратуру й г. д. Апрача выкладаў і рэфэратаў тут шмат часу адводзілася на спорт і крыху на страявыя заняткі.

Кіраўнік школы, сп. Зыгман быў сымпатычным чалавекам, і, як на тыя часы й абставіны, ён быў даволі лібэральным. Хоніць толькі для перыкладу сказаць, што якраз у гэтай школе нам першы раз давялося амаль сыстэматычна слухаць аўдыцыі зь Лёндану, што ў той час ня было так простым.

Пасьля нашага ад'езду адгэтуль, ў «Крывію» пачалі накіроўваць меншымі й большымі групамі больш здольных дзяцей пераважна з дэсаўскага й магдэбурскага лягараў. Дзеці прайшоўшы школу й вярнуўшыся йзноў у свой лягер, ужо ў значнай ступені дапамагалі ў працы кіраўнікам, а нярэдка й пераймалі іхныя функцыі.

### Падарунак ад дзяцей

У пачатку кастрычніка 1944 у «Крывію» прыехаў лучнік з Галоўнага Кіраўніцтвам СБМ у Бэрліне й прывёз усім кіраўнікам новыя накіраваньні на працу. Трэба было разьяджджацца паадным ці падвох ува ўсе куткі Нямеччыны. Міхасю С., Алесю М., Аркадзю Г. і мне быў загад зьявіцца ў Бэрлін, адкуль мы мелі быць накіраваныя ў беларускі кадравы батальён, што меў арганізавацца ў Бэрліне.

Бяручы на ўвагу, што зь дзяцьмі больш працаваць нам ня прыдзецца, мы пастанавілі заехаць падарозе ў Дэсаў, каб апошні раз наведаць сваіх былых выхаванцаў, тым больш, што парудзённае спазьненьне ў Бэрлін можна было мі налётамі.

Калі мы прыехалі ў дэсаўскі лягер, апраўдаць частымі ў той час паветраны- дзеці ўжо даўно спалі. Назаўтрае-ж раніцай вестка аб нашым прыезьдзе абабегла ўвесь лягер, і наш слаўны «Смаленскі Мішка» даслоўна выгнаў нас з ложкаў сваім штомінутным загляданьнем праз дзьверы й спраўджаньнем, ці мы ўжо ня сьпім. У нас у лягеры ніколі ня было звычаю вітацца падаваньнем рукі. На гэты-ж раз, калі я зьявіўся ў былой сваёй групе юнакоў і неяк мімаволі выцягнуў руку да першага зь іх, дык да мяне сунуўся раптам лес рук, і я ня ведаў, адкуль пачынаць. Пры гэтым кажны зь іх нешта казаў, кажны штосьці пытаўся перакрыкваючы адзін другога, і трэба было некалькі добрых часін, пакуль я зарыентаваўся ў гэтым хаосе і змог адказаць на першыя пытаньні. Калі-ж я сказаў, што прыехаў толькі наведаць іх і заўтра раніцай еду ў Бэрлін, дык група загаманіла йзноў: адныя лаялі Немцаў, іншыя казалі «проста ня ехаць» і г. д.

Назаўтрае раніцай заходжу ў іхны барак разьвітацца. Яны акружылі мяне паўколам. Бачу, выштурхоўваюць аднаго наперад, падбадзёрваючы: «Сьмела, сьмела!» Той розгублена паглядае навакол, а тады выходзіць наперад і нясьмела пачынае гаварыць. Я ўжо не памятаю дакладна словаў, але ў кажным выпадку гэта была сваеасаблівая разьвітальная прамова. Пасьля вылічэньня ўсіх маіх «заслугаў» перад імі, яны мне жадаюць «шчасьлівенька даехаць, здароўя і ўсяго такога», а на дарогу перадаюць падарунак. Гляджу — цягнуць дзьве вялікія пачкі, напэўна кажная па кіляграмаў шэсьць. Аказваецца — яны падрыхтавалі мне «перакуску ў дарозе»: свае штодзённыя порцыі хлеба, маргарыну, каўбасы й г. д. І гэта ў той час, калі самі напэўна-ж сытымі ня былі! Такі самы падарунак атрымаў і Міхась С. ад сваіх юнакоў, а як пасьлей аказалася атрымалі іх і капэнскія кіраўнікі ў Капэне. Вось якімі былі нашыя дзеці ў тыя страшныя часы!

### Лістоўныя весткі

Такім чынам праца мая й беспасрэдная лучнасьць з гэтымі дзяцьмі закончылася. Тым ня менш, далейшы лёс іхны мяне заўсёды цікавіў і дзякуючы лістоўнай сувязі з бальшынёю юнацкіх асяродкаў, можна было мець сякі-такі абраз іхнага далейшага жыцьця.

І цяпер вось, хоць-бы для прыкладу, колькі дробных урыўкаў з тагачасных лістоў:

«...Я жыву толькі надзеяй, што хутка ўсё кончыцца і шчасьліва вернемся на сваю Радзіму.

«Дзеткі нашы гадуюцца добра, часта ходзяць на «крабы», а таксама ў лес па дзікія яблыкі. Мы зь іх варым смачныя рэчы. Прыяжджай хутчэй, будзе чым частаваць...» (Ліст ад кіраўнічкі Веры К. з Дэсаў, у палове кастрычніка 1944).

«...З гэтым днём (налёт на Магдэбург 28. 9. 44 А. Г.) шмат чаго перажылося, а найбольш страху. Дзякуючы налёту Амэрыканцаў, малюнак стварыўся страшэнны. Усе часткі гораду былі траплены ўзрыўнымі і запальвальнымі бомбамі. Ня мінуў гэтага і наш лягер. Тры вялізныя бомбы ўпалі ў адлегласьці 5-10 м. ад бункеру, у якім знаходзіліся амаль усе дзеці й мы. Адна частка бункеру завалілася, засыпала невялікую групу дзяцей і двух забіла цэмэнтовымі абломкамі. Жывых адкапалі й далі ім першую дапамогу. Баракі часткова пашкоджаныя, умывальня, куды ўпала адна бомба, зьнікла бязьсьледна. Ужо прайшло тры дні, але ніхто не пасьпеў ачуняць ад перажытага кашмару...» (Ліст ад кіраўніка Тодара Е. з Магдэбургу).

«... У нас шмат навін. Капэн разьехаўся ў «дрэбезгі», словам, ніхто не астанецца ў Капэне.

«Мы, г. зн. «Дэсаўцы» пакуль што на месцы. Нас нікуды неадпраўляюць, бо нам прысылаюць капэнскіх малышоў і работы хопіць.

«З харчамі ў нас як-бы пагоршылася, а з курэньнем дык і зусім дрэнь...» Ліст ад кіраўніка Пятруся Н. з Дэсаў, 17. 10. 44).

«...Ужо другі тыдзень жывём у іншым лягеры, які шмат выгаднейшы за папярэдні. Дзеці чуюцца весялейшымі, куды весялейшымі, таму што пакоі менш-больш адпаведныя да жыцьця, поле блізка, а галоўнае, што разьбіты бункер не наводзіць на дзяцей жаху. Працы маем досыць, але ёсьць надзея на дапамогу, а менавіта: 20 юнакоў кончылі курс у Драйсэгакэр і ўчора прыехалі зноў да нас. Яны нам будуць сякою-такою дапамогай...» (Ліст ад таго-ж Тодара Е. з Магдэбургу, 7. 11. 44).

«...Зараз па Тваім выезьдзе ад'ехалі ад нас «старыя» дзеці а прыехалі з Капэну. Спачатку мела вельмі многа працы, пакуль іх прывучыла да новага парадку.

«У нашым бараку шмат павесялела, сабралася нас большая сямейка — усе кіраўнічкі з Капэну. Яшча ніколі тут ня было так весела, як гэтыя дні. Праўда, гэта ўжо нядоўга патрывае: заўтра Галіна Б. едзе ў Мульдэнштайн, Ванда Ч. у Эбэрсбах, і так па аднэй ад'едуць ад нас.

«Для дзяцей часта робім сяброўскія вечары, на якіх заўсёды прыпамінаецца Бацькаўшчына...» (Ліст тае-ж Веры К. з Дэсаў, 14. 11. 1944).

«...І запраўды прыехалі (Штандаровы Б. і сп. Мэнцэль з Остміністэр'юм — А.

(Заканчэньне на 3-й бачыне)

# Чарговая правакацыя ўсходнябэрлінскага Камітэту

Мы ўжо папераджалі эміграцыйную грамадзкасьць, што г. зв. Камітэт за паварот на бацькаўшчыну будзе рабіць усякія правакацыі з мэтаю маральнага стэрарызаваньня палітычных эмігрантаў з Савецкага Саюзу з аднаго боку і скампрамітаваньня іх у вачох заходніх дзейнікаў — з другога. Аказваецца, мы ў гэтым не памыліліся, бо ўжо маем канкрэтныя факты такой «патрыятычнай» дзейнасьці ўсходнябэрлінскага Камітэту. Пайменна:

Ведамы казацкі журналісты ў Мюнхэне сп. **П. С. Палякоў** пераслаў у нашую Рэдакцыю дзеля апублікаваньня афіцыяльнае пісьмо Камітэту за паварот на бацькаўшчыну, падпісанае самым старшынём гэтага Камітэту Міхайлавам, і свой адказ на яго. Ніжэй зьмяшчаем поўнсьцю гэнае пісьмо ў яго расейскім арыгінале:

Комитет «За возвращение на Родину»
Адрес — Берлин, Беренштрассе, 65.
Но. 220655/II

22 июня 1955 г.

Г-ну П. С. Полякову

Уважаемый соотечественник!

На Ваше письмо, в котором Вы спрашиваете о возможности В/возвращения на Родину, отвечаем, что возвращение Ваше, как и других эмигрантов, может иметь место без опасений, что на Родине Вас встретять репрессии за прошлую деятельность. Мы не устаем повторять всем, кто к нам обращается: если Вы едете на Родину, чтобы работать для ее блага, а не по заданиям ее врагов, то будьте спокойны за свою свободу.

Комитет приветствовал бы Ваше окончательное решение — порвать с эмигрантским прошлым, и оказал бы Вам всяческое содействие при возвращении домой.

Если у Вас имеются какие — либо конкретные вопросы, связанные с отдельными частностями при оформлении возвращеныя на Родину, напишите нам и мы постараемся ответить в кратчайший срок.

В ожидании Ваших дальнейших писем — с приветом

Председатель Комитета
(-) МИХАЙЛОВ»

У вадказ на гэтае правакацыйнае пісьмо сп. П. С. Палякоў просіць нас надрукаваць наступнае ягонае асьветчаньне:

«Рэдактару газэты „Бацькаўшчына"».
Высокапаважаны Спадар Рэдактар!

Прыкладаючы пры гэтым копію пісьма, атрыманага мною 25 чэрвеня сёлета, прашу Вас апублікаваць яго ў выдаванай Вамі газэце, а так-жа й наступнае маё асьветчаньне:

Ніколі ніякага пісьма ў Камітэт „За паварот на бацькаўшчыну" я ня пісаў. Гэты адказ на маё быццам пісьмо — чыстая правакацыя „Камітэту за паварот на бацькаўшчыну".

У выпадку-ж, калі ў менаваным Камітэце ёсьць якоясь пісьмо, напісанае яму зь Мюнхэну ад майго імя, я прасіўбы апублікаваць ня толькі яго поўнасьцю, але й фотокопію ягонага канца з подпісам.

І апублікаваньне гэтага пісьма і неапублікаваньне яго дасьць магчымасьць дакладна ўстанавіць асобаў, што займаюцца правакацыяй.

Прыносячы Вам, Спадар Рэдактар, наперад удзячнасьць за Вашую ветлівасьць, прашу Вас прыняць і ў гэтым выпадку запэўненьні майго к Вам асабістага паважаньня і такой-жа адданасьці.

27. 7. 55

Шчыра Ваш
(—) П. Палякоў.

Ня гледзячы на тое, ці ўсходнябэрлінскі Камітэт, пішучы прыведзенае вышэй пісьмо сп. Палякову, ня меў ад імя апошняга ніякага пісьма, ці пісьмо гэтае зьяўляецца адказам на зварот да яго нейкага агента гэтага Камітэту, які мог напісаць ад імя сп. Палякова, — у вадным і другім выпадку мы маем справу зь бессаромнай правакацыяй Камітэту «За паварот на бацькаўшчыну» і ягонага старшыні Міхайлава. Мэта гэтай правакацыі аж надта ясная: Камітэт «За паварот на бацькаўшчыну», добра ведаючы бескампрамісовую антыбальшавіцкую пазыцыю сп. Палякова, зрабіў гэтым пісьмом спробу скампрамітаваць яго ў вачох заходніх уладаў, як чалавека, які быццам мае кантакты з усходнябэрлінскім Камітэтам і мае намер, пры ягонай помачы, вярнуцца на бацькаўшчыну.

Вышэй прыведзеная правакацыйная хвальшыўка ўсходнябэрлінскага Камітэту добра раскрывае нам яшчэ адзін сакрэт у дзейнасьці гэтага Камітэту. Пайменна, у кажным нумары аднайменнага воргану гэтага Камітэту — газэткі «За возвращение на Родину» мы знаходзім рад пісьмаў, пісаных быццам эмігрантамі з Савецкага Саюзу ў гэты Камітэт, у якіх эмігранты дзякуюць Камітэту за ягоную руплівасьць аб іх і выражаюць сваю гатоўнасьць вярнуцца на бацькаўшчыну. Правакацыйнае пісьмо Камітэту сп. Палякову дае магчымасьць прыпушчаць, што і ўсе іншыя пісьмы эмігрантаў, абвяшчаныя на бачынах газэткі «За возвращение на Родину», зьяўляюцца такім-ж самымі правакацыйнымі хвальшыўкамі.

**Г. А. Такаеў**

# Аб Бэрыі, Керэнскім, рэвалюцыі й контррэвалюцыі

### 66. Адна асаблівасьць новага рэжыму

Вось-жа ворагі Бэрыі-Мяркулава атрымалі поўную перамогу. Моцная ці нямоцная перамога — час пакажа,, але ўжо цяпер можна адзначыць адну асаблівасьць.

Тэарэтычныя клічы кастрычніцкай рэвалюцыі абвесьцілі канец так званае «царскае ваеншчыны». У 1921 г. Сталін на зьездзе народаў Паўночнага Каўказу гаварыў, што «назаўсёды кончана з ваеншчынай царызму, з пагоньнікамі-прыгнятальнікамі, з гэнэраламі-крывапіўцамі». Добра ці блага, але гэта было зьдзейсьнена: Ленін не назначыў сябе гэнэралісімусам, Сьвярдлоў не нацягнуў на плечы маршальскія пагоны, на чале партыі не стаялі гэнэралы. Але праз 20 год «царская ваеншчына» ўзяла гару: Сталін нацягнуў на рэвалюцыйныя плечы пагоны «гэнэралаў-крывапіўцаў», абвесьціў сябе спачатку маршалам, а пасля — гэнэралісімусам. Калі гаварыць аб гэтых драбніцах, дык цяжка сабе ўявіць справу больш контррэвалюцыйнейшую.

Пачаўся 1953 год. У складаных міжнародных абставінах памёр сымбаль прымусовае еднасьці, гэнэральны сакратар, старшыня савету міністраў, вярхоўны галоўнакамандуючы, калішні кіраўнік дзяржаўнага камітэту абароны, карыфэй вайсковае думкі. Крэмль бадай не сумляваўся, што вось-вось розныя Даўнінг-Стрыты й Ўол-Стрыты пачнуць збройную інтэрвэнцыю. Што рабіць? Каго назначыць вярхоўным галоўнакамандуючым? Жукава? Ён ня сябра прэзыдыюму. Бэрыю? Молатаў і Булганін ня згодзяцца. Булганіна? Бэрыя ня згодзіцца. Варашылава? Можна падумаць. Папершае, маршал, хоць конскі маршал, але ўсё-ж маршал. Падругое, сябра прэзыдыюму. Патрэйцяе, сваіх філязофіяў ня мае, да ніякае групы не належыць, няшкодны...

Так быў знойдзены яшчэ адзін гнілы кампраміс. Варашылава паставілі на чале прэзыдыюму вярхоўнага савету. Часткова, тымчасам, хоць у якойсьці меры было разьвязанае пытаньне і галоўнакамандуючага «на ўсякі выпадак».

Але перагрупаваныя цяперашнія гаспадары імпэрыі разумелі, што гэтая разьвязка незадавальняючая з-за Бэрыі. Будзе кончана з Бэрыям — будзе кончана і з рэштай пытаньняў. Рэальнай ваеншчыне, што стаяла за сьпіною Молатава, патрэбны быў не сымбалічны Варашылаў, а цалкам рэальныя маршалы, і абавязкава на пасадах прэм'ера ды міністра абароны. Пытаньне было разьвязанае безь ніякіх цяжкасьцяў, бо Бэрыі больш ня было, а Мікаян уцягнуў галаву глыбока ў плечы.

Такім чынам, вытварылася камічная сытуацыя: прэм'ер — маршал; «прэзыдэнт» — маршал; ваенны міністар — маршал; начальнік гэнэральнага штабу (як належыцца) — маршал; тры заступнікі прэм'ера — гэнэралы; першы сакратар ЦК КПСС — гэнэрал; кіраўнік КГБ — гэнэрал, МВД — гэнэрал, пры чым, за выняткам Варашылава й Хрушчова, усе — фанатычныя молатаўцы. Да гэтага трэба дадаць, што ў пачатку сакавіка 1955 г. агульны лік маршалаў Савецкага Саюзу быў даведзены да 17-ці. Ваеншчына!

Інакш кажучы, была праведзена далёкасягальная мілітарызацыя, зроблены важныя стратэгічныя захады.

### 67. Другая асаблівасьць новага рэжыму

Я хачу яшчэ раз не пакінуць сумлеву ў тым, што выступаю гэтта не як вялікарасейскі імпэрыяліст або антырасейскі нацыяналіст. Я быў, ёсьць і застаюся перакананым прыхільнікам братэрскага, раўнапраўнага й дабраахвотнага сужыцьця вольных народаў. Але якраз гэта й змушае мяне зьвярнуць увагу на другую асаблівасьць новага рэжыму: прэм'ер — Расеец, міністар дзяржаўнага кантролю — Расеец, міністар нутраных справаў — Расеец, міністар замежных спраў — Расеец, кіраўнік КГБ — Расеец, сакратары ЦК КПСС — Расейцы, рэдактары «Праўды» й «Известий» — Расейцы, міністар абароны — Расеец, начальнік гэнэральнага штабу — Расеец, начальнік галоўнае палітычнае ўправы савецкае арміі — Расеец, Расеец, Расеец...

У пэўным разуменьні я ня меншы Расеец чымся ўсе яны, але ўва мне бурліць пратэст ад таго, што 123 артыкул канстытуцыі груба парушаецца, дэманстрацыйна. Нельга не пратэставаць супраць таго, што 45-мільённае мусульманскае насельніцтва нідзе й нікім не рэпрэзэнтавана (і тут зацемім, што сам я не мусульманін!). Дзе-ж «раўнапраўныя» Карэльцы, Эстонцы, Латышы, Летурвісы, Беларусы, Азэрбайджанцы, Паўночна-Каўказцы, Туркмэны, Таджыкі, Узбэкі, Казахі, Кіргізы, Малдаўцы й «іншыя плямёны»?! Што уласна кажучы выграецца гэткаю нацыянал-шавіністычнаю дыскрымінацыяй? Няужо-ж ня ясна, што яна ўносіць атруту ў узаемадачыненьні між народамі? Няўжо-ж ня ясна, што ўсё гэта выклікае псыхічную насьцярожанасьць у нерасейскіх народаў? Ці не падобна гэта да паводзінаў некаторых «усерасійскіх» эміграцкіх арганізацыяў, якія зачыняюць з трэскам дзьверы рэдакцыяў «усерасійскіх» газэтаў і часапісаў перад інакшдумаючымі нацыяналамі? Ці імпэрыялісты Булганін і Молатаў думаюць, што роўных ім нельга знайсьці ў 215-мільённым шматнацыянальным насельніцтве? Ці ім ня ясна, што гэта — махровая контррэвалюцыйная практыка, бо-ж рэвалюцыя зухавата абяцала роўныя правы?

Сумленна й чэсна я ўпэўнены, што гэтую ганебную практыку мусяць выкрываць перш за ўсіх расейскія дэмакраты, бо яны спрычыняюць шкоду рэпутацыі й гонару расейскага народу.

### 68. Мікалай Буганін

Між іншага, асабліва дзівіцца няма чаго: старшыня ўраду — гэта махровы контррэвалюцыйны імпэрыяліст.

Праўда, што гэта чалавек — адукаваны й разумны тыран. Праўда, што ягоныя дзяржаўныя здольнасьці ня выклікаюць сумлеваў, калі мець наўвеце асаблівасьці савецкае дзяржавы. Ад часу Леніна на чале ўраду бадай не стаяў яшчэ больш адпаведны тыран і імпэрыяліст.

Але якраз дзякуючы гэтаму і зьяўляецца ён адным з найбольш небясьпечных людзей у савецкай гісторыі. Гэта той, хто не нажарты здольны прэтэндаваць на ролю прадаўжальніка традыцыяў «гістарычнае Расеі», Гэта — тып закончанага контррэвалюцыйнага адзінанепадзельніка, які гатовы парэзаць СССР на вобласьці, той, хто здольны падняць руку супраць некаторых артыкулаў канстытуцыі, што паясьняюць правы саюзных і аўтаномных рэспублік. Кажная форма нацыянал-патрыятызму выклікала й выклікае ў яго чмыханьне й злосьць. Ён ня прызнае ніякіх **народаў СССР,** ён знае толькі адзін «савецкі народ». Гэта той, за кім ужо даўно замацавалася мянушка «нашнародніка».

Доўга перад сьмерцяй Сталіна, у кнізе «Крэмлёўскія дыктатары» я пісаў, што **злучэньне Молатава й Булганіна на становішчы галоўных дыктатараў была-б запраўднай трагэдыяй для справы міру, пачаткам закручваньня гайкі мілітарызму да канца, пачаткам узьняцьця МГБ і МВД да рангі крытэрыя вышэйшае дэмакратыі, канцом спадзяваньняў паняволеных народаў на хуткае вызваленьне.**

Запраўды, я ня маю чаго дадаваць да гэтага. Трэба мець канкрэтнае ўляўленьне пра людзей тыпу Молатава, Булганіна, Сакалоўскага, Жукава, Жыгарова, Серова, Круглова, Сабурава й Касыгіна, каб пазбыцца ілюзыяў.

### 69. Некаторыя высновы

Зробім пэўныя высновы. Цяпер можна ўважаць за канчальна ўстаноўленае, што па сьмерці Сталіна молатаўцам было адносна лёгка расправіцца із старым ворагам Бэрыяй. Але апошняму ўсё-ж удалося зрабіць некаторыя цікавыя захады, не падобныя да захадаў дэмакратычных, але ўсё-ткі павучальныя, забаўныя.

Пасьля наважанага наступу Бэрыі пачаўся наважаны контрнаступ молатаўцаў. Спачатку ножніцы тэрору зразалі галовы адных змоўцаў, пасьля — іншых. Молатаўцы намагаліся пакончыць з бэрыяўцамі ў пачатку 1943 г., — бэрыяўцы намагаліся пакончыць з молатаўцамі ўвесну 1953 г. Пасьля молатаўцы ўзяліся яшчэ раз за вынішчэньне бэрыяўцаў, і гэта быў апошні захад.

Рэпрэсаванымі аказаліся й адны, і другія. Вядучаму пласту сталінізму давялося наражацца на пераалілуйшчыну мінімум два разы на паўгода. Гэта была вельмі сваеасаблівая новаяжоўшчына, якая адзначалася хуткасьцяй тэмпу, наважанасьцяй ды бязьлітасьцяй, нацыяналістычнымі эмоцыямі, пры чым барацьба так і ня зыйшла зь верхніх ярусаў у ніжнія. Нізы гэтым разам бадай нічога ня зналі аб тым, што адбывалася.

Нажаль, даводзіцца сканстатаваць, што ў гэтай крывавай сутычцы, дзеля невядомых яшчэ прычынаў, пацярпелі ня толькі чэкісты й рабаўладальнікі, але й сумленныя людзі, навет запраўдныя рэвалюцыянэры-дэмакраты, што ня мелі нічога супольнага зь ніводнай з варожых міжсобку групаў. Акрамя гэтага, народы СССР у апісваны пэрыяд страцілі асобу, якую гісторыя ўспомніць добрым словам. Але што-ж зробіш: ніякія валадары, у тым ліку й тыранічныя, ня існуюць без народу й дзяржавы, і таму ніякая барацьба вярхоў не застаецца бясьсьледнай для народных масаў.

### 70. Каго й за што тэрарызавалі молатаўцы?

Ад часу арышту Бэрыі й Мяркулава перасьледаванымі аказаліся тыя, хто намагаўся працягваць крочыць у кірунку тымчасовае й частковае дэцэнтралізацыі-дэканцэнтрацыі; хто меў беспасрэдныя або пасрэдныя адносіны да сьмяротнае сутычкі між прамолатаўскаю верхавінаю МГБ і прабэрыяўскаю верхавінаю МВД збоку бэрыяўцаў; хто ведаў або мог даведацца пра прычынны й абставіны «абавязковае хваробы»; хто йшчэ ў жніўні 1952 г. стаў на шлях пасыўнага супраціву хрушчоўскім аграгарадом; хто ўважаў за згубную палітыку трывалае вайсковае акупацыі вялікае колькасьці дзяржаваў Эўропы й Азіі; хто «меў адвагу» вынесьці сьмецьце «змовы лекароў» на паказ усяму сьвету; хто «меў адвагу» дамагацца разьвязаньня сельска-гаспадарчых праблем праз увядзеньне частковага нэо-НЭП-у ў калгасах; хто надумаўся падаць рэвізіі генэральную лінію партыі ў галіне інструкцыі; хто вымагаў датрыманьня саюзнага прынцыпу сужыцьця народаў; хто настойваў на абвешчаньні палітычнае амнэстыі й

# Гульня хвальшывымі картамі

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

жа Жэнэве мае адбыцца новая канфэрэнцыя: гэтым разам не на найвышэйшым шчэблі, а толькі на шчэблі міністраў замежных справаў. Мо' нехта падумае, што Жэнэўская канфэрэнцыя была разыйграная ў нічыю, што асталося тое самае палажэньне, якое было й да канфэрэнцыі. Нажаль, гэтак ня ёсьць. Жэнэўская канфэрэнцыя была вялізарным сукцэсам для камуністых і паніжаючым правалам для Захаду. Яна была ганебнай капітуляцыяй Захаду, які, лёгка адмовіўся ад сваіх пастулятаў, а толькі пераліцытоўваўся мірнымі лёзунгамі з Саветамі, гэтымі апошнімі высунытымі.

Заходнія дзяржавы плянавалі паставіць на парадку дня канфэрэнцыі пытаньне Нямеччыны. Аднак, калі Саветы не згадзіліся яго разглядаць, бо аб гэтым будуць мець магчымасьць гаварыць беспасярэдна з канцлерам Адэнаўэрам, лёгка на гэта прысталі, выклікаючы горкае расчараваньне сярод нямецкага народу. Амэрыка плянавала парушыць на канфэрэнцыі пытаньне паняволеных народаў Сярэдняй і Ўсходняй Эўропы і пытаньне падрыўной акцыі сусьветнага камунізму. Але калі Саветы станоўча гэты плян адкінулі пры падтрымцы Вялікабрытаніі і Францыі, прэзыдэнт Айзэнгаўэр без асаблівага супраціву ўзяў свой праект назад. Замест таго, каб ясна і станоўча абвінаваціць Савецкі Саюз у зламаньні ім пастановаў Атлянтычнай Карты, Карты Задзіночаных Нацыяў і ўсіх іншых міжнародных дагавораў, у паняволеньні народаў ня толькі Сярэдняй і Ўсходняй Эўропы, але й народаў самога Савецкага Саюзу, у камуністычнай агрэсіі на тэрыторыі Азіі, у арганізаваньні і праводжаньні падрыўной работы ўва ўсіх чыста вольных краінах сьвету і ў цэлым радзе іншых злачынстваў, шэфы заходніх вялікадзяржаваў задаволіліся слоўнымі запэўненьнямі аб мірных намерах Савецкага Саюзу і ягонай прыязьні да Захаду. І гэта ўсё!

Але гэтага хапіла, каб на Захадзе пачалося ўзапраўднае «галавакружэньне ад усьпехаў». Брытанскі міністар замежных справаў Мэк Мілан, паўтараючы фатальныя словы Чэмбэрлена пасьля Мюнхэнскай канфэрэнцыі ў 1938 годзе, на лёнданскім лётнішчы патэтычна заявіў: «Жэнэва прынесла мір». Навет прэзыдэнт Айзэнгаўэр, які быў у Амэрыцы вітаны пасьля канфэрэнцыі, як пераможнік на алімпійскіх ігрaх (азначэньне лёнданскага «Эканаміста»), заявіў, што ў Жэнэве распачалася новая эра. Заходняя прэса не знаходзіць словаў захапленьня над «мірнымі» і «прыязнымі» гэстамі Булганіна і Хрушчова, па дзяцінаму цешучыся, што новыя савецкія правадыры раз назаўсёды адмовіліся ад агрэсыўнай савецкай палітыкі. Калі-ж брытанскі прэм'ер Ідэн падаў да ведама, што Булганін і Хрушчоў вясной 1956 г. прыбудуць зь візытай у Лёндан, брытанскі парлямант ня мог паўстрымацца ад задаваленьня.

Выло-б наіўным думаць, каб дасьветчаныя дзяржаўныя мужы заходніх вялікадзяржаваў, як Айзэнгаўэр, Ідэн, Фор, Мэк Мілан і іншыя ўзапраўды так лёгка паверылі, што «Жэнэва прынесла мір» і запачаткавала «новую эру». Іхная пазыцыя ў Жэнэве, як і пасьляжэнэўскія выказваньні зьяўляюцца бясспрэчна згары ўплянаванай імі палітычнай ігрой. Расшыфроўваць гэтай ігры мы тут ня зьбіраемся. Скажам толькі, што, на нашую думку, гэта ігра хвальшывымі картамі. Бо незалежна ад таго, што за ёй хаваецца, шкоды ад гэтай ігры будуць бясспрэчныя. Трэба прыпускаць, што калі жэнэўскія памылкі хутка і станоўча ня будуць Захадам папраўленыя, шкода ад іх будзе траякая.

Папершае, штучна створаная жэнэўская атмасфэра аб заканчэньні міжнароднага напружаньня бязь ліквідацыі прычынаў гэтага напружаньня, псыхалягічна раззброіць заходнія грамадзянствы і моцна прытупіць іхную пільнасьць на савецкую небясьпеку. У сваю чаргу гэта можа адбіцца на тэмпах збраеньняў заходніх дзяржаваў і арганізацыі іхнай абароназдольнасьці.

Падругое, адсутнасьць патрабавальнасьці і станоўчасьці заходніх дзяржаваў у справе разьвязаньня нямецкага пытаньня ў Жэнэве павялічыць недавер Немцаў да Захаду і можа змусіць іх шукаць беспасярэднага паразуменьня з Савецкім Саюзам. У кажным выпадку пазыцыя Адэнаўэра ў Маскве, куды ён выбіраецца 9 верасьня, будзе цяпер значна цяжэйшая.

Патрэйцяе, — і гэта бадай найважнейшае, — паняволеныя народы за зялезнай заслонай цяпер могуць пабачыць, што ад Захаду ніякай помачы ім нельга спадзявацца. Савецкая прапаганда патрапіць выкарыстаць пазыцыю Захаду ў Жэнэве ў тым сэньсе, каб гэтыя народы прыйшлі да пераканаНьня, што ім трэба пагадзіцца із собскім лёсам.

У гэтых трох пунктах і заключаецца галоўны выйгрыш Саветаў на Жэнэўскай канфэрэнцыі і ў запачаткаваным ёю кірунку заходняй палітыкі.

Язэп Каранеўскі

# Штучныя сатэліты Зямлі

Сёлета ў пачатку жнівеня адбыўся ў Капэнгагэне інтэрнацыянальны кангрэс астранаўтыкі (міжплянэтнае сувязі). Удзел у ім бралі навукоўцы з 36 краінаў, у тым ліку й з СССР. Галоўным пунктам паседжаньняў было падрыхтаваньне інтэрнацыянальнага геафізычнага году, які будзе цягнуцца ад 1. 7. 1957 да 31. 12. 1958. На працягу гэтых 18 месяцаў навукоўцы будуць супольна працаваць над вывучэньнем розных галінаў астрафізыкі.

На адкрыцьці кангрэсу выступілі з прамовамі шматлікія навукоўцы. Амэрыканскі навуковец Фрыдрых Дюран у сваёй прамове выказаў думку, што да канца нашага стагодзьдзя чалавек «прызямліцца» на Месяцы. На думку нямецкага навукоўца Кёле ужо праз трыццаць гадоў Марс і Месяц будуць даступныя чалавеку.

У часе прабегу кангрэсу закраналіся шматлікія праблемы астрафізыкі. Найбольшая-ж увага навукоўцаў была зьвернута на штучныя сатэліты Зямлі, якіх маюць пусьціць у прастору ЗША, СССР, Францыя й Ангельшчына ў часе інтэрнацыянальнага геафізычнага году.

Гэтыя сатэліты будуць мець круглую форму, круціцца навокал свае гарызантальнае восі, важыць 50 кг. ды знаходзіцца на вышыні 300—320 км ад Зямлі. На гэтай вышыні ціск ня бдузе ўжо перавышаць аднае стоміліярднае часткі атмасфэры. Сатэліт будзе рухацца з хуткасьцяй 8 км на сэкунду, г. зн. 28 000 км на гадзіну, а такім чынам, свой шлях навокал Зямлі ён будзе рабіць за 90 часін. Сатэліты будуць «узброеныя» шматлікімі вымяральнымі прыладамі. Назіраньне-ж за імі найлепш будзе праводзіць у ваколіцах полюсаў, а дзеля таго пачынаецца ўжо будаваньне ў палярных зонах адпаведных назіральных базаў і лябараторыяў.

Мэханізмам для падняцьця сатэліту будзе служыць у пачатковай стадыі V 2. Адзін сатэліт будзе каштаваць 1 мільён даляраў.

Б. А.

# Казка «пра белага бычка»

(Фэльетон з «Советской Белоруссіі» за 17. 6. 55).

Аналізуючы сваю дзейнасьць у сыстэме спажывецкае каапэрацыі, Філімон Шаўцоў часта прыгадвае ўлюбёную пагаворку: «Ня май сто рублёў, а май сто сяброў». Прычым, у гэтыя словы ён укладае далёка ня звычайны зьмест. Папершае, Філімон ахвочы да грошай і ад ста рублёў ніколі не адказваецца. Падругое, сябры ў разуменьні Шаўцова, — гэта ня проста добрыя прыяцелі, а людзі, што памагаюць яму займаць важнае становішча, атрымоўваць салідныя грошы, і якія ўдабавак выручаюць яго пры патрэбе.

— На шмат я не прэтэндую, — разважае Філімон. — Пакульшто мяне поўнасьцяй задавальняе пасада старшыні райспажыўсаюзу. І запраўды: матар'яльныя вартасці пад рукой — немалыя, поле для камбінацыяў — вялізнае, даходы — значныя. А галоўнае, у рэспубліцы так шмат раёнаў, што колькі-б мяне ні здымалі з працы, новае цёплае месьцейка заўсёды знойдзецца, сябры выручаць.

І запраўды, выручаюць.

Каля дзевяці месяцаў Філімон пратрымаўся на пасадзе старшыні Петрыкаўскага раённага спажывецкага саюзу. Аб тым, для якіх мэтаў выкарыстаў ён сваё службовае становішча і чым закончылася гэтая бачына ягонае біяграфіі, сам Шаўцоў расказваць ня любіць. Прынамся ў ягоных асабістых справах, якія парахоўваюцца ў вабласных спажыўсаюзах, на гэтыя пытаньні адказу ня знойдзеце. Затое паводля іншых крыніцаў можна з поўнай дакладнасьцяй сьцьвердзіць, што былы петрыкаўскі кіраўнік з даручаным заданьнем ня справіўся. У ягонай «дзейнасьці» былі выкрыты злаўжываньні і стала пытаньне аб прыцягненьні яго да крымінальнае адказнасьці.

Аднак замірж лаўкі падсудных Філімон апынуўся каля стырна ўправы ў Тураўскім раёне. Высілкамі сяброў ён быў рэкамэндаваны на пасаду старшыні мясцовага райпатрэбсаюзу.

— Спажывецкая каапэрацыя, — гаварыў Шаўцоў на сходзе пайшчыкаў, — разьвіваецца й мацнее, калі ў сыстэму прыходзяць дасьветчаныя працаўнікі. Разам з гэтым трэба вычышчаць з нашых радоў прайдзісьветаў, растратчыкаў і бюракратаў. Абяцаю вам, — прадаўжаў Шаўцоў, — што ў сваёй працы не пашкадую сілаў, каб забясьпечыць... палепшыць... дабіцца...

Абяцаньняў было так шмат і так упэўнена гучэў голас аратара, што прысутныя зусім забыліся аб выплыўшым пытаньні: чаму Шаўцоў перакачаваў зь Петрыкава ў Тураў. Прамоўчалі аб гэтым і тыя, хто рэкамэндаваў Філімона сходу на пасаду старшыні райспажыўсаюзу, — ягоныя сябры з абласнога спажыўсаюзу.

І вось новы старшыня заўзята ўключыўся ў працу. Але дзіўна. Замест росквіту дзейнасьць спажывецкае каапэрацыі стала прыкметна вянуць, а у васабістых справунках Шаўцова, наадварот, крывая йшла ўверх. Словам, паўтаралася петрыкаўская гісторыя.

Райком партыі двойчы строга папярэдзіў Шаўцова. А пазьней, пасьля некаторага часу, Філімон быў зьняты з займанае пасады за злаўжываньні.

Тут, здавалася-б, і прыйшоў канец кар'еры Шаўцова. Аднак дзе там! У бядзе Філімона не пакінулі.

— Дык едзь, браце, у Ельск, — сказалі яму сябры.

— У Ельск, дык у Ельск. Мне адкрыты дарогі ў любы раён, акрамя Петрыкаўскага й Тураўскага.

Дзейнасьць Шаўцова на новым месцы цягнулася менш за восем месяцаў. Але й за гэты час ён поўнасьцяй выявіў свае «здольнасьці». Зь ягонае санкцыі загадчыкі магазынамі сельпо Цалко, Красны й Бондар сыстэматычна вывозілі ў раёны Ўкраіны дэфіцытныя тавары, дзе прадавалі іх па спэкуляцыйных цэнах. Шаўцоў абкружыў сябе «сваімі» людзьмі. На загадчыка магазыну быў назначаны ягоны сваяк Рабчынскі, якога ўжо двойчы звальнялі з працы за злаўжываньні і павышэньне цэн на тавары. Вельмі добрым сябрам Філімона аказаўся дырэктар раённага магазыну Ваймблат — растратчык і вымагальнік.

Ня дзіва, што райком КПБ, разгледзіўшы пытаньне аб працы райспажыўсаюзу, прыйшоў да адзінае правільнае пастановы — звольніць Шаўцова з пасады старшыні райспажыўсаюзу.

Што-ж далей? Ці будзе канец у гэтай, зусім ня сьмешнай казцы «пра белага бычка»?

Інтарэсы справы вымагалі, каб такі канец прыйшоў неадкладна. Аднак сябры Шаўцова думаюць і робяць інакш. Дакладна цераз 17 дзён пасьля пастановы Ельскага райкому партыі на сьвет зьявілася новая паперка ў справе Шаўцова. Ейны тэкст абвяшчаў наступнае: «Старшыні праўленьня Маладэчанскага аблспажыўсаюзу т. Шапіру. Накіроўваю для перамоваў т. Шаўцова Ф... адносна працы ў якасьці старшыні Радашковіцкага райспажыўсаюзу». Паперку падпісаў заступнік старшыні ўправы Белкаапсаюзу т. Рябков.

І ўзноў паўтараецца старое. Вось што гаворыцца, прыкладам, аб дзейнасьці Шаўцова ў лісьце, прысланым рэдакцыі: «У Радашковіцкім райспажыўсаюзе груба парушаецца закон аб ахове каапэратыўнае собскасьці, несваечасова перадаюцца сьледчым органам матар'ялы аб растратах, захоўваюцца раскрадальнікі. Шматлікія выпадкі звычайных растратаў адносяць да так званых «дробных нястачаў», не паказваючы гэтых растратаў у балянсе. У Радашковіцкім сельпо, прыкладам, выяўлена шэсьць растратаў на суму 10 382 рублі. У Красненскім сельпо выкрыта дванаццаць растрат на суму 25 482 рублі, аднак гэтыя растраты схаваныя і ў балянсе не паказаны».

Ці знаюць-жа аб гэтым у абласным спажыўсаюзе? Ясна, знаюць. Аднак заміж таго, каб зрабіць захады і ачысьціць каапэратыўныя арганізацыі ад зладзеяў і жулікаў і гэткіх дзялкоў, як Шаўцоў, там. відаць, ламаюць галаву над тым, у які раён даць цяпер накіраваньне Філімону.

І. ЛЯШЭВІЧ

# Аб некаторых словах і хормах нашае мовы

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

радзьбіт, аральбіт), а дзеля таго, што ёсьць **сяўба**, але няма «сейба», дык можа быць толькі **сяўбіт**. «Сяўбою» завецца сама работа сяяньня і зярняты, каторыя сеюць. Таксама **садзьба** — саджэньне і прызначаныя на садзьду бульба, буракі і пад.

**Словы, што пажадана ўжываць.**

**Карысьлівы** (націск на -ры-) користолюбивый: Нсл. 248. Карысьлівы чалавек мае карысьлівыя вочы. Там-жа.

**Надгаладзя** (націск на над-) — впроголодь. Шсл. Надгаладзя так і прабыў цэлы дзень. Ст.

**Ёмісты** — вместительный. Лужасна Куз. (Ксл.). Ёмісты мяшэчак — пудоў зь 10 убгаю. Там-жа.

**Сядравы** (націск на -ра-) — рас. холодноватый, нням. kühl. Ар. Адна беларуская нацыянальна-рэвалюцыйная песьня, надрукаваная ў 1917 г., пачынаецца гэтак: Вецер сядравы павеяў над борам, хмарамі лісьця абсыпаў кусты.

**Сядрава** (націск на ся-) — холоднавато. Нсл. 631. Сядні сядрава на двары. Там-жа.

**Субарніна** (націск на -ба-) — бессмыслица, кавардак. Беліца Сян. (Ксл). Вядзеш ты нейкую субарніну. Там-жа.

**Сьпех,** -у — успех. Нсл. 611. Сьпеху няма ў рабоце. Бай Божа табе сьпех там. куды едзеш. Там-жа. І Гарэцкі ў сваім «Маскоўска-беларускім слоўніку» рас. «успех» перакладае блр. **сьпех, спор.**

**Укульміцца** (націск на -ку-) — сосредоточиться, углубиться. Луб'ева Аз. (Ксл). Як укульміўся, дык не адарваць. Там-жа.

(Далей будзе)

Я. Станкевіч



## Да ўвагі нашых падпішчыкаў і даўжнікоў

Асобы, якія атрымоўваюць нашу газэту непасрэдна зь Нямеччыны, грошы за яе павінны перасылаць Прадстаўніком «Бацькаўшчыны» ў краі свайго пражываньня.

Адміністрацыя «Б-ны»

## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd, London, S. W. 6.

**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia** 25 Belmont P. de Mount Colah. N. S. W.
**Mr. Donat Jackiewich,** 33 Hope St. Spotswood-Melbourne, Vict.
**Mr. A. Moroz,** 109 Morrison Rd, Midland Junction, Western Australia.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**C. Cimafiejcyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**БЭЛЬГІЯ:**
**Mr. Vasil Sčečka,** 19, Place Hoover, Louvain.

**ДАНІЯ:**
**J. Lobejko,** c/o H. C. Jensen, Leifsgade 6 III tv., Kobenhavn S.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mr. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinois.
**Mr. B. Danilovich,** 112 Somerset St. New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 1020 Kenilworth Ave, Cleveland 13, Ohio.

**НОВАЯ ЗЭЛЯНДЫЯ:**
**Mr. Marian Karanieuski,** 88 Hercules Drayve, Roxburg — Hydro.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Mr. Bonifacy Prytycki,** 17, Rue Roger Salengro, Lys les Lannoy (Nord).
**Section Bielorussiene de C. F. T. C.** 26, Rue de Montholon, Paris 9.

**ШВЭЦЫЯ:**
**Basil Lukaszyk,** c/o Hammer Ringvagen N. 123/III, Stockholm.